АМСТЭРДАМ. У фабрыках амуніцыі ў Гэмбургу забаставало 1000 работнікоў.

ЛОНДОН. У Ніжняй Палацы Ллойд Джордж заявіў, што ірландзкі конвэнт збярэцца ў Дубліне 25 ліпня. Сінн-фэйнэры, староннікі О'Брыэнна і кіраўнікі прафэсыональнюх саюзоў у Дубліне і Корку адмовіліся заседаць на конвэнці.

КЭЛЬН. Італьянскіе палонные апаведаюць аб разрухах, быўшых у Трэвізо і Нэаполі. Некалькі тысяч дэзэртэроў акапаліся ў Абруцкіх гарах і адмовіліся ісьці на фронт. Народ паддзержывае іх, дастаўляючы спажыўные прадукты.

АМСТЭРДАМ. Прэзыдэнт кітайскай рэспублікі ўцёк у японскае пасольство.

ПЭКІН. Кітайскі імпэратар адрокся ад трону.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**6.VII. Заходні тэатр:**

Начные стычкі.

На Эн у начной бітве на штыкі ўзято значнае чысло палоных.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Між Зборовым і Бэрэжанамі — вострая артылерыйская бітва. Пры Звыжыне, Бродах і Смаргоні агонь вельмі ажывіўся.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: На поўдні ад даліны Касіну мы агнём разагналі прыгатаваную дзеля штурму румынскую пяхоту.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: На ніжнім Дунаі ворагі кратаюцца.

**7.VII. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На фронці Фляндрыі і Артуа крапчэла артылерыйская бітва.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Востры агонь пры Сэрні, на канале Эн-Марн і ў заходняй Шампані. Французы атакавалі вялікімі сіламі адрэзак між Корніе і Высокай Гарой. На палудзенным усходзі ад Норуа гвардзіей адбіта атака агнём і штыкамі. Разведкі пры Брымон і Сэрнэ-ан-Дормуа далі нам значнае чысло палонных.

Збіто 8 варожых самалётаў і 1 прывязны лятучы шар.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Група войск гэнэрала-ан-шэфа Бэм-Эрмолі:

Бітва ў усходнай Галічыне закончылася ўчора незвычайна крывавым разгромам расейцоў. Пасьля многагадзіннаго нішчучаго агня між Конюхамі і Лаврыкоўцамі на раніцы пачаліся расейскіе штурмы. Густымі массамі кідаліся расейцы на наш фронт. Усе штурмы зломлены с самымі цяжкімі стратамі. Ужытые расейцамі панцырные аўтомобілі разбіты. На уцякаўшые назад грамады салдатоў зрабілі налёт нашы лятуны. Сабраную дзеля пагоні кавалерыю мы разагналі агнём. Не шкадаваўшые ніякіх ахвяр ворагі штурмавалі пасьля на адрэзку на поўдні ад чыгункі Злочов—Тарнополь і між Батьковым і Звыжынам, а такжэ пры Бэрэжанах і Станіславове. Усюды расейскіе штурмы адбіты з вялікімі стратамі.

Знойдзеные намі прыказы у французкай мові паказваюць, хто гнаў расейскіх салдатоў на бойню, скончыўшуюся незвычайна крывавымі стратамі.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* У некалькіх пунктах у Карпатах адбіты наступленьня расейцоў.

На фронці Макензэна і Македонскім—без перамен.

**8. VII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На узбярэжжы мора, на адрэзках Іпра і Вітчэта, пры Ленс і між Соммай і Уазай—сільны агонь. Пры Сэн-Кантэн нашы дружыны разведчыкоў узялі палонных.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: У вечары французы атакавалі на ўсходзі ад Сэрні. Атака зломлена нашым агнём і ручнымі гранатамі. На левым беразі Маасу, пасьля вельмі востраго агня артылерыі, пачалася французская атака на вяршыну 304 і на заходні склон Мёртваго Чэлавека. Ворагі адбіты.

Варожые лятуны зрабілі налёт на Нямеччыну. На Трыр і ваколіцы, Маннгэйм, Людвігсгафэн і Родальмэн скінуто больш 100 бомб дзеля падпалу. У нашы рукі папаў адзін варожы самалёт.

Раніцай 7 ліпня адна наша лятучая эскадра зрабіла налёт на Лондон і абкідала бомбамі. Адзін варожы самалёт збіт над Лондонам. Нашы самалёты ўсе павярнулі назад, але па дарозі адзін з іх, у каторым папсавалася машына, быў прымушэн спусьціцца на морэ.

У бітвах на паветры і стрэламі з зямлі мы збілі ўчора 9 варожых самалётаў. Паручык Вольфф збіў свайго 33-го ворага.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Група войск Бэм-Эрмолі:

Між Стрыпай і Залатой Ліпай расейцы болей не атакавалі. Пры Зборове расейская атака зламалася з вялікімі стратамі. Пры Станіславове ўчора і сягоньня раніцай ішла бітва. Аўстрыяцкіе палкі адкінулі штыкамі некалькі расейскіх дывізій. Пры Гуце, ў верхняй даліне Быстрыцы Солотвінскай, адкінута расейская атака.

У другіх армій усходняго тэатру і на Македонскім фронці, наагул, без перамен.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Гіндэнбург і Людэндорфф прыбылі ў Бэрлін дзеля рапарту Імпэратару.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Імпэратар прыняў сягоньня канцлера на паўтара-гадзіннай аўдыэнціі. Пасьля Імпэратар прыняў начальніка гэнэральнаго штабу, Гіндэнбурга.

БЭРЛІН. Гіндэнбург і Людэндорфф вярнуліся з Бэрліна у глаўную кватэру.

БЭРЛІН. Адна з нашых падводных лодак каля узбярэжжа Тунісу затапіла вялікую французскую падводную лодку.

БЭРЛІН. У Атлянтыцкім акіані і Біскайскім заліве нашы падводные лоцкі ізноў затапілі 5 параходаў і 4 парусьнікі.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Атлянтыцкім акіані ізноў затоплено 23.000 тонн; у Сяродземным моры—ізноў 11 параходаў і 29 парусьнікоў больш за 50.000 тонн; у Англіцкім канал і Паўночным моры — ешчэ 6 параходаў, 4 парусьнікі і 11 рыбаловаў.

БЭРЛІН. Нашы падводные лодкі затапілі каля Англіі ізноў 25.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодні у Атлянтыцкім акіані і Паўночным моры затапілі ізноў 18 параходаў, 6 парусьнікоў і 3 рыбаловы ёмкасьцю разам 53.600 тонн.

Паводлуг паступіўшых дагэтуль ведамасьцей, можна ўжо цяпер сказаць, што рэзультаты падводнай вайны ў чэрвені шмат вялікшые, чым у маі.

ПАРЫЖ. Вярнуўшыйся с падарожы у Амэрыку Вівіані апаведае, што на амэрыканскую падмогу можна лічыць толькі вясной 1918 году. З гэтай прычыны трэба прыгатаваць грамадзянство да новай ваеннай зімы.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.